# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 48 (718) 30 ЛІСТАПАДА 1969 г. ЦАНА 60 гр.


*БЕЛАСТОК*

*З кожным годам прыгажэе і маладзее наш Беласток. Адыдзіце толькі крыху ў бок ад цэнтральнай беластоцкай магістралі, вуліцы Ліповай, і перад вашымі вачыма вырастуць новенькія кварталы. Тут найбольш выразна відаць новае аблічча горада. Стары цэнтр Беластока таксама мяняе сваю вопратку, стартуючы ў неба высотнымі гмахамі. У гэтым перапляценні старога і новага можна знайсці непаўторнае хараство. Знайшоў яго і наш фотарэпарцёр, які зрабіў гэты здымак з даху палаца Браніцкіх (Медыцынскай акадэміі).*

*Фота Цаф — Сянько*



## ЗСЛь на Беласточчыне

Аб'яднанае людовае стронніцтва — ЗСЛь — адна з трох палітычных партый, якія дзейнічаюць у нашай краіне. Мы папрасілі старшыню Ваяводскага камітэта ЗСЛь у Беластоку, магістра інжынера Тадэуша Гоздка, каб расказаў чытачам «Нівы» пра дзейнасць гэтай партыі на Беласточчыне.

»НІВА«: Таварыш старшыня, у лістападзе 1949 года адбылося аб'яднанне людовага руху. Якія дасягненні на працягу гэтых мінульх 20-ці год можа адзначыць у Беластоцкім ваяводстве Аб'яднанае людовае стронніцтва?

СТАРШЫНЯ: — Пасля аб'яднання нашае стронніцтва налічвала на Беласточчыне 5.778 членаў. Сёння ў нашых радах знаходзіцца звыш 16 тысяч чалавек, якія дзейнічаюць у 1576-ці гуртках ЗСЛь, рассеяных на вёсках усіх паветаў Беластоцкага ваяводства. Асабліва высока цэнім адданасць і актыўнасць у радах стронніцтва з боку шматзначнай колькасці вясковых жанчын і вясковай моладзі. Для прыкладу можна сказаць, што ў раёне цяперашняга Гайнаўскага павета ў час аб'яднання не было аніводнага члена ЗСЛь. Зараз у гэтым павеце дзейнічае адна з найбольш аператыўных арганізацый, якая налічвае аж 739 членаў, аб'яднаных у 68 вясковых гуртках і групах ЗСЛь. Разрасліся таксама і павысілі сваю актыўнасць ЗСЛь-еўскія арганізацыі ў Сакольскім, Беластоцкім, Бельскім і Сямяціцкім паветах.

Побач арганізацыйных і эканамічных эфектаў нашай дзейнасці трэба адзначыць эфекты па сваёй сутнасці невымерныя. Нашае стронніцтва адыграла сур'ёзную ролю ў павышэнні культурна-палітычнага ўзроўню вясковага насельніцтва шляхам ідэйна-выхаваўчага ўздзеяння.

«НІВА»: Як ацэньваеце ролю вашых гурткоў і паасобных членаў ЗСЛь у перабудове і мадэрнізацыі вёсак Беластоцкага ваяводства?



ТАДЭУШ ГОЗДЭК

СТАРШЫНЯ: Гаспадары і члены ЗСЛь актыўна дзейнічаюць, напрыклад, у сельскагаспадарчых гуртках, у рознага тыпу ўстановах вясковай спулдзельчасці, жанчыны дзейнічаюць у гуртках вясковых гаспадынь, а моладзь — у гуртках Саюза вясковай моладзі. Гэта зразумела і неабходна. Маем ахвярных дзеячаў, а добры ўласны прыклад найлепш цэніцца ў вясковым асяроддзі і найлепш уздзейнічае на іншых. 1564 члены ЗСЛь з'яўляюцца раднымі грамадскіх, павятовых і ваяводскай радаў нарадовых, Сярод іх аж 481 асоба ўваходзіць у склад прэзідыумаў гэтых радаў. Апрача гэтага 680 членаў ЗСЛь пастаянна супрацоўнічае з радамі, з'яўляючыся членамі розных камісій пры радах і там праяўляюць яны сваю грамадскую актыўнасць. На 629 членаў ЗСЛь ускладзены абавязкі солтысаў. Незалежна ад гэтага наглядаецца шматзначны ўдзел членаў нашага стронніцтва ў дзейнасці такіх грамадскіх арганізацый як: добраахвотныя супрацьпажарныя каманды, Ліга абароны краіны, ОРМО, бацькоўскія камітэты і іншыя таму падобныя арганізацыі. З асаблівай увагай адносімся мы да штодзённага, так сказаць, рабочага супрацоўніцтва з пярвічнымі партыйнымі арганізацыямі Польскай аб'яднанай рабочай партыі. Праяўляецца гэта ў супольных змаганнях за развіццё жыцця ў канкрэтных вясковых асяроддзях, у арганізацыі грамадскага чыну і іншых таму падобных мерапрыемствах.

Вось гурток ЗСЛь у Навасадах на Гайнаўшчыне. Налічвае ён 15 членаў. Усе яны з'яўляюцца членамі сельскагаспадарчага гуртка, які лічыцца адным з лепшых у павеце. Старшыня гэтага гуртка ЗСЛь, сябар Пётр Лапінскі, які гаспадаруе на 4-х гектарах зямлі, з'яўляецца таксама дыспетчарам сельскагаспадарчага гуртка і радным ПРН. Гэта чалавек бойкі, добры арганізатар, пакрыху механік. Дык кожны з шасці трактараў, якія знаходзяцца ў распараджэнні гуртка, працаваў у мінулым годзе па 1850 гадзін, калі норма накладае абавязак працаваць толькі 1000 гадзін.

Працяг на стар.4

ЛЮДЗІ НАШАГА ЧАСУ




Асенні дзень канчаецца хутка. Халодныя яго праменні яшчэ хутчэй хаваюцца за нізка плывучыя хмары. На горад падае ноч. Загараюцца на вуліцах і дамах іншыя агні. Агні невычэрпнага людскога генія — электрычнасць. Павіслі яны над галовамі на вулічных слупах, адзінокія, або радам з вулічнымі ліпамі. Ліпы ў парывах ветру вядуць барацьбу, быццам сарвацца хацелі і ў блізкую пушчу ўскочыць, дзе спакой, цяплей і... разам.

Іх ветраныя скокі асвятляюць вулічныя гайнаўскія электрычныя лямпачкі. Ласкава кідаюць свае праменні людзям працы пад ногі.

Гайнаўскія рабочыя высыпаліся са сваіх фабрык і заводаў. Спяшаюцца дадому. Ці спяшаюцца? Ідуць умерана. Нясуць дзённую ўтомленасць і думкі.

Расходзяцца гайнаўскія рабочыя. А мы? Каго наглядаем у натоўпе, дзе ўсе падобныя? Мы не шукаем надзвычайных герояў сярод гайнаўскіх людзей. Наш час не скупіць іх нам на кожным кроку і ў кожным месцы. Іх нямала і пры гайнаўскіх станках, і ў гайнаўскіх лабараторыях. Але сёння мы выбраліся сабе звычайным следам, звычайных людзей нашага часу. Мо сама Гайнаўка часта паўтарае імя Паскробкаў, а мо запалоніла наша ўяўленне трох іх — братоў, як адзін, трох Паскробкаў? А мо тое, што яны, нарадзіўшыся тут і вырасшы, здабыўшы адукацыю, не пайшлі ў край наш шырокі, а ўсе асталіся тут і сталі патрэбнымі ў горадзе, які 25 год таму назад быў мала вядомым лясным пасёлкам, а цяпер стаіць на парозе еўрапейскай славы (хоць бы за фабрыку мэблі, якая, як збудуецца, будзе найбольшай у Еўропе).

Усё гэтае пакрысе склалася на прычыну, што выбралі мы след гайнаўскіх братоў Паскробкаў, каб імі загаварыла пакаленне людзей няпесчанае, пакаленне, аб якім Міхал Паскробка (сярэдні з роду) кажа: «Мэтай таго пакалення было здабыць нешта вартаснае». Гэтае вартаснае браты знайшлі ў сваёй прыдатнасці грамадству і сваёй сумленнай працы.

Цэняцца ў Гайнаўцы. Аб тым горад гаворыць.

Яны самі, браты Паскробкі, штурмам здабывалі веды. Найстарэйшы Мікалай пасля арміі вучыўся ў шчэцінскай палітэхніцы. Працуе цяпер у Гайнаўскім заводзе сухой дэстыляцыі дзерава эканамістам. Мовазнаўца: ведае рускую, нямецкую, англійскую і французскую мовы і ўсе добра. З драўлянай гайнаўскай прамысловасцю звязаўся і наймалодшы з братоў — Уладзімір. Працаваў найперш у лесе, а потым пайшоў на вучобу. Закончыў Галоўную школу вясковага гаспадарства (СГГВ). Працуе ў папулярна званым у Гайнаўцы тартаку, які фактычна даўно перастаў быць тартаком, а вырас на велізарны камбінат драўлянай прамысловасці. Уладзімір Паскробка вядомы спецыяліст па драўляным сушарніцтве, цэнены ў сваёй спецыяльнасці ў краіне. Адкрыў доктарскую працу на гэтую ж тэму.

Міхал — сярэдні пайшоў па настаўніцкай драбіне. Пачынаў ад вясковай пачатковай школы. Пасля завочна закончыў СГГВ і астаўся ў драўлянай прамысловасці ў Гайнаўцы, цяпер віцэ-дырэктарам. І выйшла так, што і гэты брат усё ж такі звязаўся ў пэўным сэнсе з лесам.

Колькі ў братоў Паскробкаў свядомага выбару прафесіі, а колькі інтуіцыі, цяжка сказаць. Вернымі аднак асталіся яны месцу сваёй маладосці, свайму дому і зямлі. Нават пажаніліся з дзяўчатамі з Гайнаўкі і толькі найстарэйшы Коля ўзяў жонку з Мілейчыц, а гэта ж таксама не за гарамі.

Пастацню, без якой вобраз роду Паскробкаў быў бы няпоўны, з'яўляецца маці, Анна Паскробка. Вечар праведзены ў яе хаце ў адным са старэйшых кварталаў горада на вуліцы Ліповай, дзе за акном відаць асеннія палі, запомніўся мне сардэчна. Вечар сямейны, падобны да тых вечароў, на якія часта сходзяцца браты да сваёй маці. Слухаюць яе тады і памагаюць. І з сабой пагавораць.

У мамы на сцяне вісяць гітары. Каму? — пытаю. Анна Паскробка кажа: «Усе яны іграюць і спяваюць добра. Гэта для іх, як прыходзяць сюды».

(Працяг на стар. 4)

# Падзеі ◊ Здарэнні ◊ Факты ◊ Каментарыі ◊ Весткі

 **СВЕТ**  **БССР**  **ПОЛЬШЧА**  **ВАЯВОДСТВА**

## НОВАЯ ГРАМАДСКАЯ СІЛА

Вядучаму хроніку палітычных падзей на свеце цяжка ацаніць, якая падзея была важнейшай: палёт амерыканскага карабля «Апалон-12» на Месяц ці іншыя падзеі гэтых жа дзён у Злучаных Штатах.

Хваля антываенных дэманстрацый у ЗША сталася асноўнай тэмай размоў і прэсавых каментарыяў у гэтай краіне. Але не толькі. Антываенныя дэманстрацыі сталіся хіба крыніцай новых палітычна-грамадскіх працэсаў, якія ўзнікаюць у амерыканскім грамадстве.

Нарастаючая хваля антываенных настрояў патражае і аб'ядноўвае новую палітычную сілу, несарганізаваную, грамадска неаднalітую, але ўсё больш лічыўшуюся ў грамадскіх суадносінах Амерыкі. Яшчэ не так даўно адміністрацыя і частка амерыканскага друку выказвала погляд, што дэманстрацыі супраць вайны ва В'етнаме арганізуюць нейкія групкі «разбэшчаных» студэнтаў, сфруставанай моладзі, камуністаў. Аказалася, што гэтыя «групкі» змогуць мабілізаваць многатысячны натоўп, арганізаваць дэманстрацыі, якіх не ведала гісторыя ЗША, здабыць сабе прыхільнасць амерыканскага грамадства.

Іншай відавочнай з'явай ёсць арганізаванне контрвыступлення праз найбольш правыя, кансерватыўныя шавіністычныя кругі. Такога контрвыступлення не праводзілася ніколі да гэтага часу.

Хваля мірных дэманстрацый, якая ўстрасянула Злучанымі Штатамі, хваля далёкая яшчэ ад заканчэння, выразна ўзрастаючая і прыбываючая на сіле, сталася прычынай палярызацыі (расслаення) палітычных і грамадскіх сіл. Сёння ў Злучаных Штатах не гаворыцца пра кагосьці, што ён дэмакрат ці рэспубліканец: гаворыцца, што падтрымлівае або выступае супраць в'етнамскай вайны і палітыкі адміністрацыі.

Некалькі вышэй паказаных рэфлексій напэўна не дае адказу на пытанне — куды імкнецца Амерыка? Ці пераматлі сілы сотні тысяч дэманструючых супраць вайны ці сілы добра арганізаваных правых кругоў? Адно што трэба бачыць, гэта працэсы, якім падлягае амерыканскае грамадства, бо ад іх далейшага развіцця будзе ў значнай меры залежаць бяспека свету і мір.

## СТРАШЭННАЕ ЗЛАЧЫНСТВА

Амерыканская і брытынская прэса нядаўна паведаміла аб новым страшэнным злачынстве амерыканскіх падраздзяленняў у В'етнаме.

Рота амерыканскіх салдат (каля 100 чалавек) уварвалася ў вёску Паўднёвага В'етнама, выгнала ўсіх жыхароў і, сабраўшы іх на цэнтральнай плошчы, пачала расстрэльваць. Дакладна невядома колькі памардаваных, але прадбачваецца, што было іх не менш 300 чалавек.

**АК**

## КАЛГАСНІКАЎ

Адбыўся ў Мінску Трэці з'езд калгаснікаў Беларусі. Дэлегаты прынялі пастанову, у якой аднагалосна зацвердзілі праект новага Прыкладнога Статута сельскагаспадарчай арцелі і даручылі камісіі па падрыхтоўцы і правядзенню з'езда абагульніць усе прапановы, унесеныя на калгасных сходах, раённых сходах прадстаўнікоў калгасаў і абласных канферэнцыях.

Старшынёй з'езда быў сакратар ЦК КП Беларусі У. Міцкевіч.

Даклад меў Старшыня Савета Міністраў Беларускай ССР Ц. Кісялёў. З вялікай прамовай на з'ездзе выступіў першы сакратар ЦК КП Беларусі Пятро Машэраў, які м. ін. сцвердзіў:

«...хацелася б адзначыць як радасную з'яву той факт, што ў нас з кожным годам расце колькасць добрых гаспадарак, дзе людзі дасканала авалодваюць «сакрэтамі» вырошчвання высокіх ураджаяў (...). Праблему кадраў для вёскі, паводле нашага глыбокага пераканання, трэба вырашаць дваякім шляхам — падрыхтоўкай у самы бліжэйшы час неабходнай дадатковай колькасці спецыялістаў сельскай гаспадаркі, якія ведаюць усе асаблівасці спецыялізаванай вытворчасці, і актыўным павышэннем кваліфікацыі наяўных кадраў».

## ПЕРШЫ

Выйшаў з друку першы том Беларускай савецкай энцыклапедыі. Паліграфічнае выкананне кніжкі знаходзіцца на ўзроўні лепшых узораў кнігавыдавецтва. Аб'ём тома — 624 старонкі. Налічвае ён 2.668 артыкулаў па ўсіх галінах ведаў, аўтарамі якіх з'яўляюцца звыш 1.200 відных вучоных, грамадскіх дзеячаў, літаратараў і мастакоў, выкладчыкаў. У энцыклапедыі аддаецца перавага матэрыялам, якія адносяцца да гісторыі Беларусі, развіцця эканомікі, культуры рэспублікі.

Усе артыкулы даюцца з багатай і разнастайнай бібліяграфіяй.

## ПАРАКСІЛОЛУ

На поўначы Беларусі, у Наваполацку, на нафтаперапрацоўчым заводзе выведзена на рабочы рэжым найбольш вялікі ў цэлым Савецкім Саюзе прамысловы комплекс па вытворчасці параксілолу. Атрымана першую прадукцыю.

Параксілол будзе пастаўляцца на Магілёўскі камбінат сінтэтычнага валакна для вытворчасці лаўсана.

Дарэчы зазначыць, што параксілолавы камбінат высока аўтаматызаваны, рабочыя рукі тут не дакранаюцца ні да сыравіны, ні да прадукцыі.

## ПА-БЕЛАРУСКУ

Упершыню на беларускую мову перакладзена слынную паэму Генры Лонгфела «Песня аб Гайваце». Пераклад зрабіў выдатны беларускі пісьменнік Аркадзь Куляшоў. Кніжку выпушчана ў выдавецтве «Беларусь».

**(С. Я.)**

## ГОСЦІ З СІРЫІ

Па запрашэнню Цэнтральнага Камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі, Рады Дзяржавы і ўрада Польскай Народнай Рэспублікі ў днях ад 17 да 21 лістапада прабывала ў Польшчы з афіцыйным візітам дэлегацыя Арабскай Сірыйскай Рэспублікі на чале з генеральным сакратаром Партыі сацыялістычнага арабскага адраджэння, кіраўніком дзяржавы і ўрада Арабскай Сірыйскай Рэспублікі доктарам Нурэддзінам Атасім.

Падчас пабыўкі дэлегацыі ў Польшчы госці правялі сустрэчы і размовы з I сакратаром ЦК ПАРП Уладзіславам Гамулкам, старшынёй Рады Дзяржавы Мар'янам Спыхальскім, прэм'ерам Юзэфам Цыранкевічам. Падчас размоў сірыйская дэлегацыя прадставіла дасягненні Партыі сацыялістычнага арабскага адраджэння і сірыйскага ўрада ў галіне сацыялістычных пераўтварэнняў Сірыі, гаспадарчага і культурнага развіцця, а таксама намаганні ў напрамку ўмацавання незалежнасці і абароннай сілы дзяржавы. Наступіў таксама абмен думак на тэму вопыту ў палітычнай барацьбе і дзейнасці абедзвюх партый. Сцверджана, што існуе база і магчымасць супрацоўніцтва ў гэтай галіне і пастаноўлена ўтрымліваць далейшыя кантакты.

У сувязі з сітуацыяй на Блізкім Усходзе абодва бакі асудзілі пачынанні імперыялізму і сіянізму і выказалі пераканане, што неабходным залогам развязкі канфлікта ў гэтым раёне з'яўляецца поўная ліквідацыя паслядоўнасцей ізраільскай агрэсіі на арабскія краіны, а перш за ўсё эвакуацыя ўсіх акупіраваных тэрыторый.

## ІМЯ Ю. ГАГАРЫНА

Вышэйшая інжынерская школа ў Зялёнай Гужэ атрымала імя Юрыя Гагарына. Школа з'яўляецца помнікам тысячагоддзя — дарам моладзі ЗМС з усяе краіны. У 1961 годзе Юрый Гагарын з аказіі сваёй пабыўкі ў Польшчы наведаў Зялёную Гуру і склаў свой подпіс на акце заснавання гэтай школы. На ўрачыстасці прысваення імя Юрыя Гагарына прысутнічаў намеснік прэм'ера П. Ярашэвіч і пасол СССР у Польшчы — А. Арыстаў.

## НАВУКА Ў 25-ГОДДЗІ

З аказіі 25-годдзя Народнай Польшчы адбылася з удзелам каля 600 асоб вялікая сесія Польскай Акадэміі навук. Удзельнікі сесіі падсумавалі дасягненні польскай навукі на працягу апошняга 25-годдзя. Абрады распачаў праф. Януш Грашкоўскі дакладам аб дасягненнях і ролі польскай навукі. Праф. Ян Качмарэк — старшыня камітэта навукі і тэхнікі ў сваім дакладзе пераааналізаваў галоўныя напрамкі новай стратэгіі гаспадарчага развіцця і яго сувязі з развіццём навукі падкрэсліваючы ўзрастаючую ролю вучоных і навукі ў жыцці краіны. У сесіі прынялі ўдзел прадстаўнікі партыйных і дзяржаўных улад з членам палітбюро і сакратаром ЦК партыі Юзэфам Тэйхмам на чале.

## ПЛЕНУМ ВК ПАРП

21 лістапада адбылося ў Беластоку пленарнае пасяджэнне Ваяводскага камітэта партыі. Было прысвечана абмеркаванню асноўных напрамкаў дзейнасці партыйнага актыву ў асенне-зімовым перыядзе, асабліва ў вясковым асяроддзі. Шмат гаварылася пра тое, што і як маюць рабіць установы, якія абслугоўваюць сельскую гаспадарку. Зараз калектывы сельскагаспадарчых спецыялістаў праводзяць даследванні ва ўсіх вёсках. Аб асноўных заданнях і выніках працы гэтых калектываў гаварыў на пленуме сакратар па сельскагаспадарчых справах Станіслаў Кудла. Калектывы сельскагаспадарчых спецыялістаў ужо раз праводзілі ацэнку стану сельскай гаспадаркі ваяводства. Цяпер павінны яны праверыць, як ажыццяўляюцца іх папярэднія ўказанні і выявіць актуальныя асноўныя недахопы. Члены гэтых калектываў павінны наведаць кожнага гаспадара.

У жывой і прынцыповай дыскусіі, якая разгарнулася на пленарным пасяджэнні, выступаючыя адзначылі, што сельская гаспадарка Беласточчыны мае ўсё больш грошай на новыя капіталаўкладанні на развіццё сельскай гаспадаркі ваяводства. Маем таксама ўсё больш сельскагаспадарчай тэхнікі і высокаякасных хімікатаў. Вось у гэтай жа 5-цігодцы дзяржава на патрэбы сельскай гаспадаркі ваяводства адвяла звыш 4-ры мільярды злотых. У мінулай 5-цігодцы, для параўнання, Беласточчына мела на патрэбы сваёй сельскай гаспадаркі толькі 2,4 мільярды злотых, у 1966—1970 гадах сялянам ваяводства адводзіцца 400 тысяч тон мінеральных угнаенняў.

Дзейнасць партыйных вясковых арганізацый у апошнім часе канцэнтравалася ў асноўным на такіх праблемах як: прапаганда штучнага ўгнойвання палёў, вапнаванне глебы, хімічная барацьба з пустазеллем, кантрактацыя збожжа, развіццё жывёлагадоўлі і сельскагаспадарчае шкаленне.

Гэтыя намаганні, як сцвярджалася на пленуме, даюць вынікі. У 1967 годзе ваяводства наша даставіла на дзяржаўны рынак толькі 115 тысяч тон збожжа. У мінулым годзе гаспадары Беластоцкага ваяводства прадалі ўжо аж 185 тысяч тон збожжа. У гэтым годзе (да 15 лістапада) на скупачных пунктах знайшлося ўжо 145 тысяч тон збожжа. Асабліва наглядаецца рост прадуктыўнасці нашых дзяржаўных сельскіх гаспадарстваў. ПГР-ы ў гэтым годзе даставілі ўжо 28 тысяч тон збожжа.

Члены Ваяводскага камітэта ПАРП і актывісты сельскагаспадарчых установаў, якія ўдзельнічалі ў працы пленума, вызначылі канкрэтныя справы і праблемы, якія ў першую чаргу патрабуюць развязкі.

Гэтым жа самым справам — асноўным праблемам сельскай гаспадаркі Беластоцкага ваяводства — было прысвечана таксама пленарнае пасяджэнне Ваявод. камітэта Аб'яднанага людовага стронніцтва, якое адбылося 24 лістапада г. г. (вр)




**NIEDZIELA 30.XI.**

8.25 Program dnia. 8.30 TV Kurs Rolniczy: „Możliwości zwiększania ilości pasz w gospodarstwie". 9.05 „Przypominamy, radzimy". 9.15 Film. 9.35 „Melodie na dzień dobry". 10.10 „Piosenka dla Ciebie" — reklamowy koncert życzeń. 11.00 Dla dzieci: „Wyprawa na Wesołym Wietrze" — program TV radzieckiej (Moskwa). 12.00 Dziennik. 12.15 Zakończenie jesiennej rundy I ligi piłkarskiej: Wisła (Kraków) — Polonia (Bytom); Zagłębie (Sosnowiec) — Cracovia (Kraków); Legia (Warszawa) — Ruch (Chorzów). 14.20 „Sezam muzyczny" J. Offenbach — „Orfeusz w piekle". 15.10 „Przemiany". 15.40 „Cecylia — lekarka wiejska" — film. 16.10 Dla dzieci: J. Ośnica — „Baśń o dwóch nieustraszonych rycerzach" — widowisko lalkowe. 17.10 „Zrękowiny pana Michała" — film TVP („Przygody pana Michała") odc. III. 17.40 Teatr TV: I. Vyskocil — „Bracia syjamscy". 18.40 Występ estradowego zespołu Marynarki Wojennej „Flotylla". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Piknik" — film fab. USA. 21.55 PKF. 22.05 Magazyn Sportowy.

**PONIEDZIAŁEK 1.XII.**

14.25 i 22.25 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. 15.30 Przerwa. 16.35 Program dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 Dla dzieci: „Zwierzyniec". 17.35 „Echo stadionu". 17.50 „Koncert artystów meksykańskich". — Film radz. 18.20 „Spacerkiem po kinach". 18.45 „Eureka". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: W. Sokorski — „Milczenie". 21.15 „Karnawał zwierząt" — film, impresja pantomimiczna. 21.35 „Podróże z Melpomeną" („Przez granice i kontynenty"). 22.05 Dziennik.

**WTOREK 2.XII.**

9.20 „Jutro premiera" — film fab. pol. 10.55 Dla szkół: (kl. III lic. i XI) Język polski — J. Szaniawski „Dwa teatry". 11.40 Przerwa, 12.00 „Wybieramy zawód". 12.20 Przerwa. 12.45 i 13.55 Przysposobienie Rolnicze: „Podstawowe wiadomości o budowie i życiu roślin". 13.15 Przerwa. 14.25 i 22.45 Politechnika TV I roku. Matematyka. 15.15 Przerwa. 16.35 Program dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 „W Sajanach" — film radz. 17.05 Telewizyjny Ekran Młodych. 19.00 „Wieczorne rozmowy". 19.20 Dobranoc. 20.00 „Cała Polska Górnikom" — program rozrywkowy. 21.05 „Stawka nowoczesność". 21.35 „Co jest w człowieku w środku" — film TVP. 22.25 Dziennik.

**ŚRODA 3.XII.**

10.00 „Grubas" — film („Ścigany"). 10.55 Dla szkół: (kl. VII) Fizyka — „Masa a ciężar". 11.25 Przerwa. 11.55 Dla szkół: (kl. VIII) Chemia — „Węglowodany". 12.25 Przerwa. 12.45 Dla szkół: (kl. VIII) Wychowanie obywatelskie — „Handel zagraniczny". 13.15 Przerwa. 14.25 i 22.30 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 15.30 Przerwa. 16.35 Program dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 Dla dzieci: „Pan Półka i spółka". 17.25 Magazyn ITP. 17.35 „Wyprawy" — film. 17.55 TV Kurier Warszawski. 18.10 Wszechnica TV: „Sztuka liczenia". 18.40 „Ballady wykonuje Józef Nowak". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Grubas" — film („Ścigany"). 20.55 „Światowid". 21.25 PKF. 21.35 Estrada Literacka: W. Szymborska — „Czy to kwiat a może kamień" („Nowa Poezja Polska"). 22.10. Dziennik.

**CZWARTEK 4.XII.**

8.15 „Matematyka w szkole": „Funkcje trygonometryczne" cz. II. 8.45 Przerwa. 9.00 Dla szkół: (kl. II lic.) Język polski — „Mickiewicz — Krasiński — Słowacki. 9.30 Przerwa. 9.55 Dla szkół: (kl. V—VI) Język polski — „Nasz dzień powszedni". 10.25 Przerwa. 12.45 i 13.55 Mechanizacja Rolnictwa: „Orka ciągnikowa". 13.15 Przerwa. 14.25 Politechnika TV I roku. Geometria. 15.30 Przerwa. 16.35 Program dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 Dla młodych widzów: „Ekran z bratkiem". 17.55 TV Kurier Kielecki. 18.10 „Most węglowy". 18.40 „Dawne pieśni i tańce szwedzkie". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Problem stary jak świat" — film („Alfred Hitchcock przedstawia"). 20.55 „Wenezuela — bosonogi milioner" — film Tele-Aru. 21.15 Koncert Galowy UNICEF (Paryż) — część I Koncertu. W przerwie ok. 22.25 Dziennik. 23.00 Część II Koncertu (Paryż).

**PIĄTEK 5.XII.**

9.55 Dla szkół: (kl. VII) Zajęcia techniczne — „Elektrotechnika na codzień". 10.30 „Biedna ulica" — film fab. bułg. 12.00 Przerwa. 14.25 i 22.35 Politechnika TV I roku. Matematyka. 15.40 Przerwa. 16.35 Program dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 Dla młodych widzów: 1. „Aula", 2. „Duch na Wyspie Mnicha" — film, 3. „Zrób to sam". 17.50 „Nie tylko dla pań". 18.10 TV Kurier Mazowiecki. 18.25 Sprawozdanie z międzynarodowych zawodów w łyżwiarstwie figurowym o Puchar Przyjaźni. 19.00 „Przepraszamy za usterki". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Cztery serca" — film TVP („Przygody pana Michała"). 20.35 Teatr TV: St. Muskat-Fleszarowa — „Tam i gdzie indziej". 21.45 Wszechnica TV: „Telewizyjny Atlas Świata — Jakucja". 22.15 Dziennik.

**SOBOTA 6.XII.**

9.00 „Faraon" — film fab. pol. 11.55 Dla szkół: (Kl. VI) Geografia — „Gospodarka wodna PRL". 12.25 Przerwa. 12.45 Dla szkół: (kl. VII) Nauka o człowieku — „Układ oddechowy". 13.15 Przerwa. 14.00 Program dnia. 14.05 TV Kurs Rolniczy: „Krzyżowanie trzody chlewnej". 14.40 „Sport górniczy". 15.10 Program tygodnia. 15.30 Przerwa. 16.35 Program dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 Dla młodych widzów: „Krótkiego spięcia nie będzie" — turniej szkół zawodowych z Warszawy i Poznania. 17.50. „Spotkania z przyrodą". 18.15 Reportaż film. 18.30 „Tele-Echo". 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.20 „Barburka" — program estradowy z okazji Święta Górnika. 21.20 Dziennik. 21.40 Kino Interesujących Filmów: „Faraon" — film fab. pol.

**Ці Вы ўжо выпісалі „Ніву" на 1970 год?**

**Калі не, зрабіце гэта неадкладна.**

**Тэрмін падпіскі канчаецца.**

 

## Кніжка на усе дні

*Дні грамадска-палітычнай кніжкі (апошнія 10 дзён лістапада) усё часцей завем днямі кніжкі «Чалавек — Свет — Палітыка», што больш яснае. Дні такія праходзяць кожны год і іх галоўным заданнем — прыпомніць аб важнейшых у нашым жыцці сучасных падзеях, аб сучаснай гісторыі і кніжках аб гэтым. Гэта кніжкі, якія больш ад іншых даюць ведаў і арыентацыі.*

*Паўстаюць клубы кніжкі «Чалавек — Свет — Палітыка», якія дыскутуюць на тэму прачытаных кніг, артыкулаў у газетах і гд. «Дні» грамадска-палітычнай кніжкі 1969 года праходзяць пад лозунгам сотай гадавіны нараджэння Леніна (варта зацікавіцца шматлікімі працамі Леніна) і 25-годдзя ПНР.*

*Адбылося ў «Днях» многа мерапрыемстваў у Беластоку і на вёсках. Выступілі выдатныя знаўцы палітычна-грамадскіх тэм, пісьменнікі, якія свае кніжкі напісалі на канве сучасных нам здарэнняў.*

*Былі даклады на тэмы: 25 год польскай літаратуры, сітуацыі ў Кітаі і В'етнаме, гісторыі польскага рабочага руху; многа гаварылася аб ролі і заданнях грамадска-палітычнай літаратуры ў нашым жыцці.*

*Даклады і сустрэчы адбываліся ў клубах «Руху» — (каля 120 такіх дакладаў), якія ўсё больш стаюцца галоўнымі цэнтрамі ўсялякай думкі на вёсцы.*

*Было многа выставак: пра Леніна ў Польшчы, пра В'етнам, які змагаецца, пра польскіх дзяцей у час акупацыі, была выстаўка партыйнай і маладзёжнай прэсы ў Польшчы.*

*«Дні» мінаюць, але кніжка астаецца. Ляжыць на нашай паліцы ў хаце, у нашай бібліятэцы, а новую яе можна купіць у кнігарні. Гэта кніжка, якая вучыць і дае сілу зразумець самыя незразумелыя з'явы, гэтая вось кніжка астаецца з намі (да палітычна-грамадскай літаратуры адносім і прэсу). Чытаць яе трэба сучаснаму чалавеку не толькі ў «Днях», але і заўсёды. (вл)*

# Беларуская мова ў школах Беласточчыны

Паводле апошніх даных Кураторыі Беластоцкай школьнай акругі, на пачатку гэтага 1969/70 школьнага года навучаннем беларускай мовы ахопленых было агулам 11,3 тысяч вучняў у 164 пачатковых школах Беластоцкага, Бельскага, Гайнаўскага, Сакольскага і Сямяціцкага паветаў. Акрамя таго каля паўтысячы вучняў працягвала вывучаць беларускую мову ў трох агульнаадукацыйных ліцэях — у Бельску, Гайнаўцы і Міхалове.

Ацэньваючы гэтыя вынікі неабходна мець на ўвазе факт, што ва ўмовах даваеннай Польшчы беларускае насельніцтва Беласточчыны, на аснове прынятага сеймам у 1924 годзе школьнага закона, пазбаўлялася нават права да асветы на роднай мове. Адначасова, як паказвае Mały Rocznik Statystyczny, на іншых тэрыторыях Заходняй Беларусі — у б. Віленскім, Навагрудскім і Палескім ваяводствах — у 1937/38 годзе толькі 9 тысяч дзяцей шматмільённага беларускага насельніцтва вывучала ў школах родную мову. Параўнанне гэтых даных з'яўляецца яркім сведчаннем палітыкі нацыянальнага раўнапраўя ажыццяўляемай ва ўмовах народнай улады.

У 1969/70 годзе агульная сетка школ з навучаннем беларускай мовы[1]) не выказала ніякіх змен у параўнанні з папярэднім школьным годам. Большыя змены наступілі ў гэтым часе ў арганізацыйнай форме навучання роднай мовы. Колькасць школ з беларускай мовай навучання, якіх у 1968/69 годзе было 29, зменшылася ў гэтым школьным годзе да 22. Было гэта вынікам пераходу сямі школ (Орля, Дзяніскі, Махнатае, Тынявічы, Камень, Ягаднікі і Рэпіскі) на навучанне беларускай мовы як прадмета пачынаючы ад другога класа. Агульная колькасць моладзі, якая вывучае беларускую мову ў пачатковых школах Беласточчыны ў гэтым годзе (11,3 тыс.), нязначна паменшылася ў параўнанні з папярэднім 1968/69 годам (11,7 тыс.).

Наступныя даныя паказваюць колькасць пачатковых школ і вучняў вывучаючых беларускую мову ў паасобных паветах Беласточчыны:

| Паветы | 1968/69 | | 1969/70 | |
|---|---|---|---|---|
| | школ | вучняў | школ | вучняў |
| Школы з беларускай мовай навучання | | | | |
| Бельскі | 17 | 1210 | 15 | 878 |
| Гайнаўскі | 12 | 851 | 7 | 475 |
| Разам | 29 | 2061 | 22 | 1353 |
| Школы з прадметам беларускай мовы | | | | |
| Бельскі | 28 | 2406 | 30 | 2580 |
| Гайнаўскі | 58 | 4822 | 63 | 4992 |
| Беластоцкі | 29 | 1332 | 29 | 1268 |
| Сямяціцкі | 8 | 785 | 8 | 788 |
| Сакольскі | 12 | 306 | 12 | 310 |
| Разам | 135 | 9651 | 142 | 9938 |
| Агулам абодва тыпы школ | 164 | 11712 | 164 | 11291 |

Больш значныя розніцы выступілі ў гэтым часе ў паасобных паветах. Калі ў Сакольскім і Сямяціцкім паветах колькасць моладзі, якая вывучае беларускую мову, утрымалася на не зmененым узроўні, то ў Беластоцкім павеце зменшылася яна на 64 вучні, у Бельскім — на 158 і ў Гайнаўскім — на 206 вучняў. Факт гэты вынікае галоўным чынам з пераходу пералічаных сямі школ у Бельскім і Гайнаўскім паветах на навучанне роднай мовы ад другога класа (у 1968/69 годзе выкладалася яна ад першага класа), а таксама з агульнага дэмаграфічнага становішча на Беласточчыне (змяншэнне натуральнага прыросту).

Не гледзячы на ўспомненыя аб'ектыўныя фактары, у апошнім часе наглядаецца дзіўны лібералізм некаторых кіраўнікоў школ у справе звальнення вучняў з вучобы беларускай мовы. Праўда, з'ява гэтая не выступае ў шырэйшых размерах, аднак не прыносіць яна станоўчых вынікаў так у педагагічнай галіне, як і ў ідэйным выхаванні польскай і беларускай моладзі ў мешаных асяроддзях. Здаецца, што канструктыўнае садзейнічанне з органамі школьнай адміністрацыі ў справе навучання беларускай мовы павінна быць і далей у цэнтры ўвагі ўлад БГКТ.

Ю. ТУРОНАК

[1]) школы з беларускай мовай навучання і школы з прадметам беларускай мовы.

# ВАНДРАВАННЕ ЗА ПЕСНЯЙ

Вандраванне такое летам гэтага года сарганізавалі студэнты беларускай, рускай і украінскай філалогіі Варшаўскага універсітэта. Па ініцыятыве гуртка Саюза вясковай моладзі, які пры іх Інстытуце, сарганізавалі яны вандроўны фалькларыстычны лагер. Ініцыятыву падтрымала універсітэцкае праўленне ЗМВ ахвяроўваючы на гэтае мерапрыемства 7000 злотых. Навуковым кіраўніком лагера быў выкладчык кафедры беларускай філалогіі магістр Мікалай Врублеўскі, добра азнаёмлены з метадамі і прынцыпамі фалькларыстычнай працы ў тэрэне. Два тыдні студэнты вандравалі з вёскі ў вёску запісваючы на магнетафонныя плёнкі песні, казкі, апавяданні сялян, робячы этнаграфічныя здымкі. Такім чынам перавандравалі добры кавалак Сямяціцкага, Бельскага і Беластоцкага паветаў. Сабраны матэрыял удзельнікі лагера забралі з сабою ў Варшаву да навуковай апрацоўкі.



*Фрагмент адной хаты з надбужанскіх вёсак.*
Фота — М. Швед



*Удзельнікі лагера ў дарозе.*
Фота — М. Швед

Пайшоў я тады да сябра Мікалая Врублеўскага пазнаёміцца з сабраным у час лагера матэрыялам. Сябар Врублеўскі жыве ў адным з аграмадных варшаўскіх «звышгмахаў». Знайшоўшы ў блакноце нумар кватэры 1226, вандрую доўгімі калідорамі ды ліфтамі пад дзверы з гэтым нумарам. Застаю сябру Врублеўскага за работаю: займаецца ён якраз пераглядам сабранага этнаграфічнага матэрыялу. Уключаюся і я ў яго працу.

Сябра Врублеўскі перакручвае рэгулятар магнетафона і раптам... як пры чарадзейскім закляцці: усё здаецца адмянілася. Гіне варшаўскі гул і спех і ў памяшканні 1226 варшаўскага «звышгмаха» — вясковае вяселле. Крыху падхмеленыя мужчынскія галасы, шчыра і ахвярна «на ўсю душу» спяваюць вясковую беларускую песню. Потым стары жаночы голас расказвае аб пакутніцкім сваім жыцці ў старыя часы, гэтая ж самая жанчына спявае песню, складзеную ёю пра сваё жыццё. Потым жанчыны хорам спяваюць беларускія жартоўныя песні. Наступна ўключаецца вясковая варажбітка і амаль гадзіну слухаем арыгінальнага народнага варажэння з картаў. Адразу кідаюцца ў вочы пэўныя характэрныя рысы гэтага варажэння зусім іншага ад варажэння цыганак. Уяўляю сабе, што ніхто, здаецца, не запісваў беларускага варажэння з картаў.

Сеанс прадаўжаецца. Сеанс беларускага фальклору Беласточчыны. Усяго зрэшты і так не праслухаем. На магнітафонных плёнках знаходзяцца запісы на блізка 60 гадзін слухання.

— *Якая была галоўная мэта фалькларыстычнага лагера?* — пытаю сябра Мікалая Врублеўскага.

— Заданнем, — адказвае сябар Врублеўскі, — было прасачыць працэсы, якія адбываюцца ў беларускім фальклоры Беласточчыны. Лозунгам лагера было: 25 гадоў перамен на беластоцкай вёсцы. Разыходзілася пра тое, каб уларіць заніканне старых і ўзніканне новых фальклорных з'яў.

— *І які агульны эфект вашай фальклорнай экспедыцыі?*

— Можна яго найлепш перадаць лікамі. Падчас лагера запісалі мы агулам каля 700 рознага роду тэкстаў. Гэта пераважна песні, апавяданні, легенды і анекдоты. Больш дакладна аб іх змесце будзе можна сказаць, калі ўсё гэта запішацца і ўпарадкуецца. Сабраныя фальклорныя запісы будуць дапаможнікамі студэнтам пры вывучанні фальклору, а таксама будуць выкарыстаны для магчымых навуковых апрацовак.

Астаецца толькі пахваліць ініцыятыву студэнтаў Варшаўскага універсітэта і жадаць, каб ініцыятыў такіх у Варшаве радзілася як найбольш.

УЛ. ПАЎЛЮЧУК



*У размове з сялянамі вёскі Агароднікі.*
Фота — М. Іванчук

Гарадоцкія частушкі

## Аб вядомым і невядомым у Гарадку

Што прэзасаў ў ГС-е трох,
Дык гэта нам вядома.
Адзін малодшы, старых двох,
І гэта нам вядома.
Што робяць ўсе, каб ўвесці лад,
І гэта нам вядома,
Калі ж пачнуць рабіць без страт? —
Вось гэта невядома!

Што ўторак дзень targовы,
Дык гэта нам вядома.
Купляюць, прадаюць каровы,
І гэта нам вядома.
Што людзям паабедаць трэба,
І гэта нам вядома.
Чаму ж у крамах няма хлеба? —
Вось гэта невядома!

Што ёсць гаспода ў Гарадку,
Дык гэта нам вядома.
Карысць з яе — дык як каму,
І гэта нам вядома.
Не йдзі туды-просяць жанкі,
І гэта нам вядома.
Чаму ж паглохлі мужыкі? —
Вось гэта невядома!

Гарэлкі шмат ў гаспадзе п'юць,
Дык гэта нам вядома.
Пасля, як бараны бляюць,
І гэта нам вядома.
У морды валяць хто каго,
І гэта нам вядома.
Што робіць у тым наша МО? —
Вось гэта невядома!

Што рада ёсць у Гарадку,
Дык гэта нам вядома.
Завуць яе грамадскаю,
І гэта нам вядома.
Што пастаноў прымае шмат,
І гэта нам вядома.
Калі ж з іх будзе рэзультат? —
Вось гэта невядома!

Два год ляжаць ўжо пустакі,
Дык гэта нам вядома.
Ёсць пад фундамент выкапы,
І гэта нам вядома.
Студні пярэкідам ляжаць,
І гэта нам вядома.
Калі ж іх будуць папраўляць? —
Вось гэта невядома!

Што шмат каго задзелі мы,
Дык гэта нам вядома.
Ўсё то не выдумалі мы,
І гэта нам вядома.
Мы ўспамянулі факты толькі,
Гэта і вам вядома.
Якія прыме ўлада крокі? —
Вось гэта невядома!



 




# W JEDNYM SZEREGU

Пад такім загалоўкам вышла нядаўна ў выдавецтве Міністэрства нацыянальнай абароны кніжка ўспамінаў удзельнікаў партызанскіх баёў на Беларусі (1941—1944). Кніга для нас асаблівай вагі. На 473 старонках вялікага фармату выступае з успамінамі 46 савецкіх і польскіх патрыётаў — былых партызан і падпольшчыкаў на Беларусі. Напісалі іх слаўныя партызанскія камандзіры, арганізатары падполля і партызанскага руху, радавыя партызаны і канспіратары. Галоўнай мэтай аўтараў было адлюстраванне дружбы сяброў па зброі — палякаў і беларусаў. Дружба і баявое сяброўства выступаюць у кожнага аўтара і чырвонай ніццю праходзяць ад першай да апошняй старонкі.

У атмасферу кнігі добра ўводзіць уступ, у якім даецца кароткі нарыс партызанскай барацьбы на Беларусі і польска — беларускіх суадносін у апошнюю вайну. У ім, між іншым, чытаем: »...Дзесяткі тысяч беларусаў з-пад Гродна, Ліды, Баранавіч, Маладзечна, Пінска, Брэста і іншых раёнаў Заходняй Беларусі прымала ўдзел у абароннай вайне Польшчы ў 1939 г. у якасці салдат Войска Польскага. Шмат з іх, змагаючыся плячо ў плячо з палякамі, загінула ў абароне Варшавы, Модліна, польскага Шлёнска, Памора, у баях пад Чанстаховай, над Бзурай, на Люблінішчыне і іншых палях бою. Пасля верасёнвага паражэння колькі польскіх палітычных дзеячаў і патрыётаў знайшло гасціну і апеку на беларускай зямлі. Летам 1941 г., сярод абаронцаў Савецкага Саюза, беларускіх гарадоў і вёсак было нямала палякаў. У радах Савецкай Арміі удзельнічалі яны ў баях пад Масквой, Ленінградам, Сталінградам і на іншых адрэзках фронту. Пасля польскія патрыёты працягвалі барацьбу ў радах польскіх вайсковых часцей створаных на тэрыторыі СССР. На беларускай зямлі, пад Леніна, пачала свой слаўны шлях I Дывізія пяхоты імя Т. Касцюшкі. На гэтай зямлі ў барацьбе з гітлераўскімі захопнікамі загінулі тысячы палякаў.

Незабыўныя старонкі супольнай барацьбы супраць гітлераўскіх захопнікаў запісаны беларускімі і польскімі партызанамі. На акупаванай польскай зямлі, у радах савецкіх і польскіх партызанскіх згуртаванняў, атрадаў і груп змагаліся са зброяй у руках тысячы савецкіх грамадзян, а сярод іх сыны беларускага народа. Аднachасова ў партызанскіх атрадах і падпольных арганізацыях, дзейнічаючых на акупаванай тэрыторыі Савецкага Саюза, у тым і на Беларусі, знаходзілася многа палякаў...«

Менавіта сярод удзельнікаў партызанскага руху на Беларусі найбольшай групай грамадзян іншых краін былі палякі. Паводле няпоўных дадзеных у беларускім партызанскім руху ўдзельнічала звыш 3000 палякаў — польскіх і савецкіх грамадзян. Уваходзілі яны ў склад многіх партызанскіх злучэнняў. Часта ствараліся з іх асобныя нацыянальныя часці — узводы, роты, а нават самастойныя партызанскія атрады. Шмат палякаў займала ў беларускіх партызанскіх атрадах адказныя камандныя становішчы.

Аб усім гэтым мы яшчэ, на жаль, мала ведаем і выдадзеная кніжка значна запоўніць прабел у як жа важнай для нас гісторыі польска-беларускіх суадносін у самы цяжкі перыяд нашай гісторыі.

Успаміны ўкладзены па акругах: Брэсцкай, Пінскай, Баранавіцкай, Вілейскай, Мінскай, Магілёўскай, Гомельскай і Палескай. Кніжку замыкае раздзел »Беласточчына«, у якім выступаюць з успамінамі: Ян Анацік, былы партызан дэсантнай групы »Дальнія« (яго ўспаміны друкаваліся нядаўна ў »Ніве«); Язэп Зазека, былы рэдактар газеты »Свіслачская праўда«; Рыгор Саевіч, былы партызан з Навасадаў; Уладзімір Асташэвіч, былы кіраўнік маладзёжнай падпольнай арганізацыі на Бельшчыне; Міхаіл Янкоўскі, былы камандзір партызанскай брыгады »У імя Радзімы« (друкаваўся нядаўна ў »Ніве«); Якуб Баркуноў, былы сакратар Заблудаўскага падпольнага камітэта камсамола; Дзмітры Карповіч, былы начальнік штаба партызанскага атрада імя Кастуся Каліноўскага; Канстанцін Груздзеў, былы камандзір дэсанта »Стойкія« і Уладзімір Барташук, былы партызан спецгрупы. Беластоцкая тэма ёсць таксама ва ўспамінах Язэпа Храноўскага з Дзернякова, які выступае ў іншым раздзеле.

Публікацыя падрыхтавана навуковымі працаўнікамі трох інстытутаў: Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КП Беларусі, Інстытута гісторыі Акадэміі навук БССР і Вайсковага гістарычнага інстытута (Польшча). Трэба, каб яна знайшлася ва ўсіх нашых бібліятэках, школах, установах і арганізацыях, павінна яна трапіць у якнайшырэйшыя кругі актывістаў. Можа яна адыграць важную ролю ў патрыятычным і інтэрнацыянальным выхаванні грамадства. (рл)

## БГКТ

### НАРАДА СТАРШЫНЬ ГУРТКОЎ БГКТ

13 лістапада ў Бельску Падляшскім адбылася нарада старшынь гурткоў БГКТ. Было прачытана тры даклады. Даклад аб задачах і метадах працы гурткоў БГКТ — падрыхтаваў старшыня аддзела Мікалай Гайдук. Даклад на тэму — »Гурток БГКТ і аматарскі рух« — чытала член праўлення аддзела, — падінспектар да спраў культуры — Антаніна Куна. Трэці даклад »Як арганізаваць і весці аматарскі калектыў у фалькларыстычным характары« — апрацаваны быў інструктарам Павятовага дома культуры Тэрэсай Савіцкай. У трох успомненых дакладах была моцна пастаўлена справа арганізавання аматарскіх калектываў на мясцовым фальклоры.

Падчас дыскусіі ўдзельнікі нарады закранулі шмат істотных праблем. Аляксандра Панасюк з Пасынак гаварыла аб тым, што на базе гуртка БГКТ арганізаваўся гурток Саюза вясковай моладзі, што ГРН не праяўляе зацікаўлення культурна-асветнай працай, а праўленне сельгасгуртка заўсёды зробіць сход так, каб члены БГКТ аб ім не ведалі і каб не патрабавалі фінансавай дапамогі.

Вера Валкавыцкая з Орлі расказала аб сваёй працы на пасадзе кіраўніка святліцы. Яна арганізавала дзіцячы мастацкі калектыў, які мае ўжо немалыя дасягненні. У Орлі маладыя людзі хочуць спяваць, — гаварыла Вера Валкавыцкая, — хочуць утварэння харавога калектыву, але пакуль што няма каму фінансаваць дырыжора. Тут нешта магла б дапамагчы грамадская рада — але яна зусім не цікавіцца справамі моладзі.

Іван Сцепанюк з Локніцы, Валя Андрэюк з Рыбал і Вэраніка Леанюк з Плёсак у сваіх выступленнях падкрэслівалі дапамогу настаўнікаў у аматарскім руху. Вася Антыпюк з Бельска застанаўляўся над тым, чаму некаторыя людзі не прызнаюцца да сваёй нацыянальнасці і адначасова сцвярджаў, што гэтую з'яву павінны мы пераломваць культурна-асветнай працай.

Член праўлення аддзела БГКТ і адначасова старшыня павятовага праўлення ЗМВ — Янка Войцюк звяртаў увагу прысутных на вельмі павольнае павелічэнне клубакавярняў у беларускіх асяроддзях, на недахоп належнага зацікаўлення гэтай справай з боку мясцовых грамадскіх рад народовых, на брак належнай апекі над існуючымі клубакавярнямі. У нарадзе ўзялі ўдзел старшыня і сакратар ГП Міхась Хмялеўскі і Янка Зенюк. Янка Зенюк падчас свайго выступлення высока ацаніў праблематыку канферэнцыі і далей гаварыў аб патрэбе пашаны да фальклору, аб конкурсе на савецкую беларускую песню, аб конкурсе на насценгазеткі звязаныя з 100 гадавінай з дня нараджэння Леніна, аб працы з актывам.

### ГДАНЬСКАЕ ПРАЎЛЕННЕ АДДЗЕЛА

Нядаўна Гданьскі гурток БГКТ ператварыўся ў аддзел БГКТ. Пакліканa праўленне аддзела, у склад якога ўвайшлі: — Мікалай Іванюк — старшыня, Аляксандр Юзэфовіч — намеснік старшыні, Анна Краська — сакратар і члены праўлення Мікалай Гадончук — адказны за арганізацыйныя справы, Зіна Сахарчук — адказная за культурна-асветныя справы, Міхась Гадончук — адказны за прапаганду і Ольга Самешка — адказная за прапаганду беларускай кніжкі.

У рэвізійную камісію выбраны: Таіса Кірылюк (старшыня), Ніна Галёнка і Марыся Галёнка.

Праўленне аддзела разгарнула шырокую культурна-асветную дзейнасць.

### У ВАРШАВЕ

15 лістапада Варшаўскі аддзел БГКТ у Доме савецкай культуры арганізаваў вечар, прысвечаны 52-ой гадавіне Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі. У праграме вечара было: даклад штатнага працаўніка аддзела Віктара Шведа і выступленне з успамінамі аб супольнай барацьбе з нямецкімі захопнікамі двух палкоўнікаў — Тадэуша Чайкоўскага, намесніка начальніка ваяводскага вайсковага штаба ў Беластоку, і Яна Анаціка прэзаса ваяводскага праўлення ЗБоВіД. Браў удзел у гэтай урачыстасці і сакратар ГП Янка Зенюк.

Дом савецкай культуры падрыхтаваў багатую выстаўку беларускіх кніжак і часопісаў. (мс)

## ДЗЯДАВЕЦ ЗАПЭЎНІЎ

Вёска Сушча, мясціна за гарамі-лясамі, ужо каля пяці год стараецца аб непасрэдную пэкаэсавую камунікацыю з Беластокам. Справа на добрай дарозе, людзі сушчанскай ваколіцы намагліся і іх даўнішні гасцінец стаў падобным на шашу. Добрая дарога, але не ўсюды. Яе канец, каля Новай Волі, належыць да павятовай адміністрацыі і гэты канец разбівае ўсю ідэю запрашэння пэкаэсу ў Сушчу. А пэкаэс, які вечна скупы на аўтобусы, бароніцца перад запрашэннем яго ў Сушчу, тлумачачыся тым жа канцом, неўпарадкаваным, з ямкамі нават, некалькісот метраў гасцінца, на якім аўтобус нібы скруціць шыю.

Дырэктар Раёна эксплуатацыі дарог, пан Дзядавец, які чуецца вінаватым у незаканчэнні гэтай справы, безнадзейна доўгагадовай, запэўніў «Ніву», што найпазней да першага снежня той кавалачак гасцінца ў канцы сушчанскай дарогі будзе пабудаваны, як след! І пэкаэс ужо не будзе мець чым выкруціцца, і паедзе па гасцінцу да Сушчы, і будзе радасць.

Дырэктара трымаем за слова, а грамадская рада дапільнуе таго слова. Так дамовіліся.

## ВЫРАБ ПУСТАКАЎ

У Юшкавым Грудзе і Багнюках наладжана выраб пустакаў і іншых прэфабрыкаваных матэрыялаў для патрэб гаспадарскага будаўніцтва. Значная роля ў тым мясцовых сельскагаспадарчых гурткоў. Дарэчы зазначыць, што базы гэтых гурткоў ужо электрыфікаваны ўключна з электрасілавымі ўстаноўкамі.

Юшкаўскі гурток налічвае пяць трактараў.

## ВЫЛЯСАВАЛІ «САМАХОДЫ»

У апошнім лясаванні кніжачак ПКО прэміяваных аўтамашынамі, дванаццаць легкавых машын выпала на Беласток. Пераважна, «Сырэна 104»; два «Масквічы 408». У Бельскім павеце двух уласнікаў такіх кніжачак вылясавала « Сырэны 104».

Увогуле, дагэтуль на Беласточчыне ёсць ужо 216 легкавых машын, вылясаваных на кніжачкі ПКО прэміяваныя. (ся)

## ГУТАРКА З ПРЭЗАСАМ

Прэзас міхалоўскага ГС-у, Іван Назарка, расказаў, што ў наступным годзе будуць пабудаваны склады ў Шымках. Вялікая патрэба ў будаванні новых крамаў пакуль што будзе заменена купляю кіёскаў цаною па паўсотні тысяч кожны. Ужо куплена іх: адзін для Міхалова, два для Шымкаў і адзін Бахурам. На весну адбудзецца купля яшчэ чатырох такіх кіёскаў. Новыя крамы ёсць у кожнай вёсцы, дзе сядзібы грамадскіх рад. Кожная новая крама мае лядоўню (электрычны халадзільнік), лядоўні ёсць і ў некаторых крамах, што гнездзяцца ў вясковых хатах, назат у кіёсках.

План продажу мінеральных угнаенняў, колькасцю ў 3.083 тоны выканана. План на гэты гаспадарчы год, лікам у 5.173 тоны, таксама рэалізуецца шчасліва. Першая рата ўжо выпрадана. (ся)

## САКОЛЬСКАЯ ТКАНІНА



У Саколцы адбылася нядаўна арыгінальная выстаўка пад назваю — «Сакольская тканіна на фоне народнай творчасці Беласточчыны». Гэта каштоўная ініцыятыва, вартая ўсемажлівай падтрымкі, павінна стацца добрай традыцыяй культурнага жыцця Сакольшчыны.

На здымку бачым цікавы калаўротак, ужываны пры вырабе дываноў. (ся)

Фота Цаф — Р.Сянько

Начальнік паліцыі гродзенскага павета накіраваў у Крынкі тайных агентаў. Рабочых, якія прыехалі сюды на заробкі з іншых гарадоў, а выследжана такіх адзінаццаць, выселена за агітацыю. На патаемных сходах гарбароў у блізкім лесе былі агітатары з Беластока, двух; паліцыйная агентура не ўдакладніла іх імёнаў. Лапаце, які не схацеў баставаць, рабочыя пабілі вокны, а другому, Эйшпарну, наладзілі лупцаванне на вачах фабрыкантаў. Абедзве справы знайшліся ў віленскай судовай ізбе. У Крынках пастаўлена роту салдат.

У астатнія годы XIX ст. крынкаўскія фабрыканты мелі велізарны збыт у глыбі Расіі, зараблялі мільёны, будавалі гарбарню пры гарбарні, беластоцкія банкавыя дамы верылі, як ніколі. Пры пасрэдніцтве беластоцкіх купцоў прывозіліся скуры ў Крынкі з далёкіх прыуральскіх губерняў, перш за ўсё з Арэнбургскай. Адзін з вялікіх крынкаўскіх фабрыкантаў меў нават свайго гандлёвага агента аж у кіргізскіх стэпах ля Кітая, закупляў там скуры. За год Крынкі выраблялі дзвесце пяцьдзесят тысяч конскіх скураў. Лічба рабочых павялічылася да сямісот, а лік насельніцтва мястэчка — да шасці тысяч.

Надыйшоўшае XX ст. было працягам кан'юнктуры. Рэвалюцыя 1905 года ў Крынках слаўная, аб ёй пісалі еўрапейскія газеты, ленінская «Искра». Першы раз у цэлай Расійскай Імперыі рабочыя захапілі ўладу ў гарадской мясцовасці, у Крынках, і гэты факт перайшоў у гісторыю пад назвай «Крынкаўскай Рэспублікі».

У 1913 годзе ў гарбарнях Крынак, якія разрасліся да 10 тысяч жыхароў, працавала каля 3.000 рабочых. Гэта была палова цэлай гарбарнай прамысловасці ў Гродзенскай губерні з яе беластоцкай прамысловай акругаю. Мястэчка стала найбольшым цэнтрам гарбарнай прамысловасці. Паўторны ўпад Крынак пачаўся ад выбуху першай сусветнай вайны.

У палове жыцця другой Рэчыпаспалітай Крынкі, прыблізна, дасягнулі стану развіцця з канца XIX ст. Антысавецкая палітыка адцяла ўсходні рынак збыту, на якім вырасла мясцовая прамысловасць, народжаная мануфактуршчыкамі з Польскага Каралеўства.

Нямецка-фашысцкая акупацыя пакінула адны руіны, гарбарні разбураныя да фундаментаў. Крынкі ў 1950 годзе другі раз страцілі гарадскія правы. І другі раз выратоўвае іх гарбарная прамысловасць, гарбары. Цяперашняя гарбарня, вялікая і добра абсталяваная, дае прадукцыі 36 мільёнаў зл. у год. Цаною 58 мільёнаў адбываецца яе разбудаванне, пераўтварэнне ў будучы гарбарны камбінат, які мястэчка Крынкі паставіць нароўні са значнымі гарадамі Беласточчыны. Іх прамысловая прадукцыя перавысіць восемдзесят пяць мільёнаў злотых.

САКРАТ ЯНОВІЧ

## Наш Каляндар

# Міхась Лынькоў



**Лынькоў сярод будаўнікоў Мінска.**

Споўнілася 70 год з дня нараджэння выдатнага беларускага празаіка Міхася Лынькова.

Міхась Лынькоў нарадзіўся 30 лістапада 1899 года ў вёсцы Зазыбы Лёзненскага раёна на Віцебшчыне ў сям'і рамонтнага рабочага на чыгунцы. Вучыўся ў Рагачоўскай настаўніцкай семінарыі. Улетку 1919 года па прафсаюзнай мабілізацыі пайшоў у Чырвоную Армію.

У 1925 годзе быў прызначаны сакратаром, а неўзабаве адказным рэдактарам бабруйскай акруговай газеты «Камуніст». На яе старонках і друкаваліся першыя яго фельетоны, нарысы і апавяданні. З 1930 па 1932 год М. Лынькоў працаваў у Дзяржаўным выдавецтве БССР. У 1932 годзе — сакратар аргкамітэта, а пасля — сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў БССР і рэдактар часопіса «Полымя».

З 1943 года працаваў у Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук БССР. З 1936 года член-карэспандэнт, з 1953 — правадзейны член Акадэміі навук БССР. У складзе дэлегацыі БССР М. Лынькоў не раз удзельнічаў у рабоце асамблей Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

Асноўныя выданні: «Апавяданні» (1927), «Андрэй Лятун» (1930), «Апошні зверыядавец» (1930), «Выбраныя творы» (1931), «На чырвоных лядах» (1934), «На вялікай хвалі» (1934), «Баян» (1935), «Міколка-паравоз» (1937), «Сустрэчы» (1940), «Векапомныя дні» (1958), «За акіянам» (1962).

## Літаратурныя гульні

### ХОДАМ ШАХМАТНАГА КАНЯ

Ходам шахматнага каня прачытайце радкі з Дзяржаўнага гімна БССР. Першы ход рабіце з аднаго з вуглоў.

Напамінаем, што аўтарам слоў гімна з'яўляецца М. КЛІМКОВІЧ, а музыкі Н. САКАЛОЎСКІ.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| НАС | РТЫІ | КІ | ТА | КШЧАС |
| РУС | АВА | ЦЮВЯ | СЛАВА! | НА |
| ОДПА | АБ'ЯДН | РОД | ПАРТЫЯ | БЕ |
| СП | ЛА | НІНА | ДЗЕНАС | СЛАВА |
| АЛАЛЕ | ЎПАХ | РАДЗІМЕ | БЕ | ІМЯ |

Як развязку прышліце тэкст прачытаных радкоў Дзяржаўнага гімна БССР.

Сярод тых, хто прышле правільную развязку, разлясуем кніжныя ўзнагароды. Наш адрас: **Redakcja tygodnika »Niwa«, Białystok, ul. Wesołowskiego 1.**

Развязкі прысылайце да **11 снежня 1969 г.**

Развязка Віктарыны № 1 з 46 нумара «Нівы» з 16 лістапада г. г.: 1) Я. Колас — »Мужык« (Беларускае слова« для V класа); 2) М. Багдановіч — »Слуцкія ткачыхі« (»Дружба і праца« для VIII класа); 3) М. Багдановіч — »Краю мой родны! Як выкляты богам« (»Мір нам патрэбен« для VI класа); 4) Я. Купала — »Я мужык — беларус...« (»Беларускае слова« для V класа).

Рэдагуе А. КАРПЮК

## Ці ведаеце, што...

...літаратурны музей Янкі Купалы размяшчаецца на месцы, дзе да Вялікай Айчыннай вайны стаяў уласны драўляны домік паэта. У пачатку вайны домік згарэў, засталася толькі адна таполя, што расла каля хаты.

...за пяцьдзесят год выйшла звыш 160 кніг Якуба Коласа на адзінаццаці мовах, у тым ліку на беларускай мове — звыш 927 тысяч экземпляраў.

...27 красавіка 1945 года Якубу Коласу быў уручаны медаль «За абарону Масквы».

...у 1952 годзе Якуб Колас быў узнагароджаны двума ордэнамі Леніна. Першым — за шматгадовую і бездакорную працу ў Акадэміі навук БССР, другім — у сувязі з 70-годдзем з дня нараджэння.

...Якуб Колас тры разы быў абраны дэпутатам Вярхоўных Саветаў БССР і СССР. (а-к)




### КРАІНА АРАТАЎ

26 лістапада споўнілася 45 год з дня заснавання Мангольскай Народнай Рэспублікі. Манголія пяць разоў большая за Польшчу, але жыве ў ёй прыблізна толькі жыхароў, колькі налічвае наша сталіца. Гэта найменш людная краіна Азіі. Паўтара квадратнага кіламетра на аднаго жыхара. Уплыў вельмі цяжкіх геаграфічных умоў. Неўраджайная зямля, засуха летам і моцныя маразы зімою, замаруджвалі развіццё гэтай велізарнай тэрыторыі. Аднак манголы патрапілі прыстасавацца да існуючых умоў. Сабраны ў працягу стагоддзяў вопыт вырашыў аб выбары адпаведных формаў гаспадаркі, найпрактычнейшага жылля і ўбораў.



Па ліку гаспадарскай жывёлы на аднаго жыхара Манголія б'е сусветны рэкорд (звыш 25 штук).

*Мангольская вопратка (ідэнтычная для мужчын і жанчын) прыстасавана да суровага клімату.*

да якіх, нягледзячы на мадэрнізацыю краіны, манголы вельмі прывязаны.

Краіна качуючых пастухоў — аратаў. Авечкі і быдла найбольшае багацце краіны, хоць у апошніх дзесяцігоддзях, дзякуючы планавай гаспадарцы, рэвідавана пэўныя старыя паняцці аб немагчымасці вядзення апрацоўкі зямлі. Цяпер узнікае ўсё больш гаспадарак, якія займаюцца апрацоўкай зямлі.



*Хатай большасці манголаў з'яўляецца юрта-круглы драўляны шкілет, абцягнуты войлакам. Юрта вытрымлівае як 50-градусныя маразы, так і 40-градусную спякоту.*

## Чвэрць стагоддзя назад




### ПОЧЫРК ЭРЫХА КОХА

Нарэшце настаў час, як нам здавалася, калі можна і падсілкавацца і крыху адпачыць.

Мельнікаў дастаў сала, загорнутае ў газету. А тым часам Іван Іванавіч вынімаў ужо з ножнаў кінжал, рыхтуючыся прыступіць на дзяльбы.

Маю ўвагу прыцягнула газета, у якую было загорнута сала. Прачытаў загаловак на ўсю старонку: «Наведванне рускімі парашутыстамі хутара Кляйнберг».

— Дай сюды газету, — кажу Мельнікаву.

Потым я на момант ажно анямеў ад той жудаснай карціны, якая паўстала з газетнай старонкі. На здымках — папялішча спаленага ўшчэнт хутара, знявечаныя трупы жанчын і дзяцей. Буйным шрыфтом было надрукавана: «Суайчыннікі, жыхары Усходняй Прусіі! Вось крывавыя зладзействы бальшавіцкіх бандытаў, якія высадзіліся на парашутах каля вёскі Эльхталь раніцай 27 ліпеня і ўсё яшчэ шныраюць па нашай зямлі. Мінулай ноччу яны забілі дзесяць ні ў чым не вінаватых жыхароў хутара Кляйнберг. Вы бачыце на здымку трупы пяці дзяцей і трох жанчын — іх маці, двух старых. Заўтра гэта можа здарыцца з вамі! Бандыты нападуць на вас, як шалёныя ваўкі. Знішчайце іх! Гэтым вы абароніце сябе і сваю айчыну».

— Вось яна — разгадка начнога пажару і страляніны, — задуменна сказаў Шпакаў.

На гэтай жа старонцы было надрукавана папярэджанне, што жорсткае пакаранне чакае кожнага, хто не паведаміць пра бандытаў у паліцыю або акажа ім дапамогу. А хто знішчыць бальшавіцкага вылюдка, таго чакае пашана і ўзнагарода.

У адной з інфармацый паведамлялася, што ў начной перастрэлцы з рускімі недалёка ад хутара Кляйнберг, загінула пяць паліцэйскіх.

Цяпер нам стала зразумела, што гэта былі за машыны з патушанымі фарамі, якія мы бачылі пазаўчарашняй ноччу. Значыць, яны самі ж расстралялі паліцэйскіх, тых, што пад выглядам савецкіх парашутыстаў спалілі хутар. Вядома, найбольш надзейна хаваюць сакрэты мёртвыя.

Газета пераходзіла з рук у рукі.

— Якія гады! Дзяцей не пашкадавалі... — узрушана вымавіла Аня.

Мельнікаў моўчкі сядзеў, забыўшыся на сала. Есці ўжо нікому не хацелася. Газету гэтую Мельнікаў узяў на стале. Напэўна, гаспадары хутара паспелі прачытаць яе, бачылі тыя ж жудасныя фатаграфіі. Таму і сустрэлі нас так.

Як потым стала вядома, правакацыя была задумана гаўляйтарам Усходняй Прусіі Эрыхам Кохам. Тым самым Эрыхам Кохам, прыбліжаным Адальфа Гітлера, які быў гаўляйтарам акупіраванай Украіны. Гэта быў вытанчаны кат. Ён наспецыялізаваўся на забойствах, масавых расстрэлах, рабаўніцтве на савецкай зямлі. А цяпер тыя ж сродкі ўжыў і да сваіх суайчыннікаў.

Яшчэ раніцай 27 ліпеня гаўляйтару Коху паведамілі, што ў Прусію закінута група савецкіх парашутыстаў. Немцы ад разу ж выявілі нашы парашуты, якія завіслі на дрэвах. Да таго ж, ім удалося знайсці астатнія, якія разведчыкі закапалі. Трапіў у іх рукі і парашут з грузам, які мы не змаглі адшукаць пасля прызямлення. Там былі запасныя камплекты батарэй для сілкавання рацыі, боепрыпасы.

Такім чынам, і гаўляйтар Эрых Кох і камандуючы групай арміі «Цэнтр» ва Усходняй Прусіі генерал-палкоўнік Рэйнград ведалі прыкладна аб колькасным складзе нашай групы і яе прызначэнні.

Тэрмінова была распрацавана аперацыя па знішчэнню савецкай разведгрупы.

У дапамогу паліцыі і жандарам былі пасланы курсанты юнкерскага вучылішча. Мабільныя групы прачэсвалі лес, пускалі па следу аўчарак, але ўсё дарэмна. Два першыя дні не далі ніякіх вынікаў. На трэція суткі, калі была перададзена ў Маскву першая радыёграма, немцы нас запеленгавалі. Коху далажылі, што ў начной перастрэлцы забіта трое юнкераў.

Акрамя таго, двух юнкераў знайшлі ў лесе заколатымі кінжаламі. Знойдзен таксама труп невядомага чалавека ў рускай вопратцы, але без дакументаў. Магчыма, лічылі фашысты, што гэта рускі парашутыст, а магчыма, палонны, які спрабаваў уцячы на радзіму (немцам не ўдалося даведацца, што гэта быў наш камандзір Павел Крылатых).

Час ад часу з Берліна ў рэзідэнцыю гаўляйтара Коха званіў сам Гімлер і цікавіўся вынікамі. Кох панікаваў: ён пачынаў дрыжаць за сваю скуру. І было ад чаго. Толькі тыдзень мінула з дня замаху ў «Воўчай бярлозе» на фюрара, а тут, на табе — савецкія парашутысты беспакарана дзейнічаюць каля той самай стаўкі Гітлера.

Кох запэўняў Гімлера, што савецкія парашутысты вось-вось будуць злоўлены. Але праходзілі дні, і ўсё застава-

# ТРЫБУНА чытачоў

### ПАРТЫЙНАЯ АДУКАЦЫЯ

Партыйнай вычобай у гэтым годзе ахоплены ўсе вёскі Бельшчыны. У 119 партыйных арганізацыях тэматыкай вучобы з'яўляюцца праблемы гісторыі барацьбы ППР за перамогу народнай улады ў Польшчы, асновы эканамічных ведаў і 100 гадавіна з дня нараджэння Уладзіміра Ільіча Леніна. У 18 самаадукацыйных групах абавязвае тэматыка: рэвалюцыйныя традыцыі ПАРП і выбраныя пытанні рэлігіязнаўства. У 9 прадпрыемствах арганізавана спецыяльныя курсы для актыву, а ў 20 грамадскіх радах нарадовых — школы грамадскага актыву. У амаль 50 вёсках, дзе няма партыйных арганізацый, будуць прыязджаць з дакладамі найлепшыя лектары павета.

**В. Фаль.**

### ФІЛАРМОНІЯ Ў ЛІЦЭІ

Бельскі беларускі ліцэй, як і многія іншыя школы, раз у месяц наведваюць артысты варшаўскай філармоніі. У 14 гадзін пасля ўрокаў вучні збіраюцца ў фізкультурнай зале. Усім гэтым кіруе наш настаўнік музыкі Станіслаў Максімовіч. 5 лістапада артысты філармоніі выконвалі творы Шапэна — вялікага польскага кампазітара.

**Вера Ахрымюк**

### РЫГОР ЯНЮК

Старшыня сельскагаспадарчага гуртка ў Скупаве (Гайнаўскі павет) лічыцца ў сваёй вёсцы перадавым гаспадаром. Ён многа дае мінеральных угнаенняў пад сельскагаспадарчыя культуры, належна апрацоўвае зямлю і таму заўсёды мае добры ўраджай. У яго забудаванні прыгожыя і наўкола парадак. Рыгор Янюк кантрактуе ўсе чатыры зерневыя культуры і мае з гэтага нядрэнны даход. (мм)

### МЯСА І МАЛАКО

У Дуброўскім павеце сістэматычна павялічваецца жывёлагадоўля і продаж мяса для дзяржавы. У 1968 годзе мяса куплена дзяржавай на 20,5% больш, як у 1967 годзе, бо аж 4343,8 тон. Гэты год таксама адзначыцца вышэйшай вытворчасцю мяса.

Больш рацыянальнае выкарыстоўванне паш, сенажацяў, а таксама кармленне кароў прычыняецца да павелічэння надояў малака і продажу яго дзяржаве. У 1968 годзе на Дуброўшчыне малачарнямі было куплена 5972 тысячы літраў малака. Гэты год значна перавысіць 1968 год. (мх)

### СХОД МОЛАДЗІ

Нядаўна адбыўся ў Шчытах сход моладзі. Вёў яго інструктар Бельскага аддзела БГКТ Іван Шурбак. Дакладна расказаў ён аб працы, якую вядзе БГКТ у беларускім асяроддзі, аб развіцці асветы і культурнай дзейнасці. На сходзе быў рэарганізаваны гурток БГКТ. Выбрана новае праўленне, якое прыняло пастанову аб арганізацыі драмгуртка ў Шчытах. На заканчэнне сходу Іван Шурбак расказваў аб тым, як арганізаваць і пашыраць культурную дзейнасць. Падаў прыклады дзейнасці гурткоў БГКТ у Паўлах, Рыбалах, Малінніках, Гарадку, Пасынках і Кожыне.

**Ваня Кірызюк**

### КЛУБАКАВЯРНІ

У Беластоцкім павеце налічваецца 256 вёсак. А клубакавярняў толькі 50. Ёсць такія грамады як, напрыклад, Юшкаў Груд, дзе няма клубакавярняў. А зноў некаторыя, як у Свіслачанах і Цісоўцы, клубакавярні дрэнна працуюць і зусім не з'яўляюцца ўстановамі культурна-асветнай працы. (хх)

### ЗАБАЛОЧЧЫНА

Да перадавой вёскі ў грамадзе Нараўка адносіцца Забалоччына. Жыхары гэтай вёскі абавязковыя, добра разумеюць свае абавязкі перад дзяржавай. І тут не трэба прадстаўнікам прэзідыума мясцовага ГРН траціць часу на тлумачанне тых ці іншых спраў звязаных з абавязкамі гаспадароў.

Нядаўна ў Забалоччыне праведзена камасацыя зямлі. Гэта прычынілася да эканоміі часу на апрацоўку зямлі і на поўнае выкарыстоўванне сельскагаспадарчых машын. (мх)




Дарагое Сэрцайка!

Мне 18 год. Жыву на вёсцы і даязджаю вучыцца ў горад. У нашай вёсцы ёсць многа хлопцаў. Адзін з іх мне не падабаецца. Так, Сэрцайка, не падабаецца. Ён заўсёды аднак стараецца сесці каля мяне, ходзіць за мной, просіць танцаваць. Калі мы сядзім усе дзяўчаты, ну так у грамадзе, тады ён частуе цукеркамі толькі мяне, а больш нікога, рэшта яго не абходзіць. Мне не падабаюцца яго паводзіны. У нас часта бывае забава. Калі я зайду сама, дык усе зараз пытаюцца: а дзе твой? Не магу гэтага перанесці, бо ён жа ж мне не падабаецца. Парай, Сэрцайка, што яму сказаць, каб ён не рабіў мне толькі сораму, а можа ён добра паступае? За параду буду ўдзячна.

Аня з Гайнаўшчыны

АНЯ! Не ведаю, ці гэты хлапец не бачыць, што ён табе не падабаецца, што цябе дражніць, ці не хоча бачыць, ці ты мо даеш повады, каб ён гэтага не заўважаў. Адносна яго паступкаў, дык усяляк можна тлумачыць. Напэўна не вельмі добра выглядае, калі частуе толькі цябе, а сяброўак сваіх абмінае. А тое, што ён так ходзіць усё за табой, дык гэта вытлумачыць трэба яго пачуццямі да цябе. Вядома, чалавек закаханы. Ты павінна даць яму зразумець, што трактуеш яго як сябру, аднак не маеш ніякіх пачуццяў. Аднак зрабі гэта ўважліва. Хлапец зразумее і перастане хадзіць за табой, не маючы ўжо ніякіх шанц.

Сэрцайка

**52 гадавіна Вялікага Кастрычніка**

### У СТАРЫМ ЛЯЎКОВЕ

6 лістапада адбылася ўрачыстая акадэмія ў святліцы ў Старым Ляўкове (Гайнаўскі павет).

Даклад прачытаў сакратар стараляўкоўскай ПОП Я. Цялушэцкі. Затым адбылася мастацкая частка ў выкананні школьнай моладзі.

На заканчэнне акадэміі сабраныя агледзелі каляровы савецкі фільм, які дэманстраваўся бясплатна. На акадэмію прыйшло 130 асоб.

### У ПЛЯНЦЕ

У Плянце акадэмія адбылася 8 лістапада. Даклад прачытала старшыня гуртка ЗМВ Валя Сухадола. Затым адбылася згадуй-згадуля і маладзёжная патанцоўка.

### У ДУБІНАХ

У Дубінах (Гайнаўскі павет) сяляне выконвалі свае абавязацельствы ў гонар 52 гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі. Наладжана там дарогу, якая спалучае вёску Дубіны з машына-трактарнай базай мясцовага сельскагаспадарчага гуртка.

Грамадскім чынам звезена таксама і распляntавана пясок на 200-метравым адрэзку дарогі. Добрай працай выказаліся: Павел Юрчук — старшыня сельскагаспадарчага гуртка, Ян Юрчук — сакратар грамадскага камітэта ПАРП, Мікалай Аверчук, Канстанцін Койла і Грыша Вэрэмюк.

Я. Цялушэцкі

### У БЕЛЬСКІМ ЛІЦЭІ

Усе вучні сабраліся на ўрачыста ўпрыгожаным калідоры, дзе адбылася ўрачыстаць.

На пачатку дырэктар ліцэя Мікалай Гайдук сказаў, якой тэме прысвечана ўрачыстасць. Потым з дакладам выступіла вучаніца II класа Антаніна Залуская. Мастацкая частка складалася з вершаў вучняў, а таксама песень, якія выканаў школьны хор.

**Вера Ахрымюк**

### У ГАЙНАЎСКІМ ЛІЦЭІ

Моладзь ліцэя сабралася на школьным калідоры, які быў упрыгожаны сценгазетамі аб Леніне.

Спачатку вучаніца III класа, член ЗМВ — Н. Кавальская прачытала даклад. Потым адбылася мастацкая частка, якую падрыхтавалі вучні пад кіраўніцтвам настаўніцы Кшэўскай. На мастацкую частку злажыліся польскія і беларускія вершы, а таксама песні »Я люблю тебя жизнь«, »Песня пра Леніна« і »Dziś do ciebie przyjść nie mogę«.

**Люба Ярашэвіч**

### ДАМЫ НАСТАЎНІКАМ

У Юшкавым Грудзе і Рыбаках у наступным годзе будзе закончана пабудова трохсямейных дамоў для мясцовых настаўнікаў. Застаецца толькі пажадаць, каб не было потым замнога пераробак, што, на жаль, усё яшчэ тыповае нашаму будаўніцтву не заўсёды хуткаму, і не заўсёды салідна му. (ся)



*Будова Дома настаўнікаў у Юшкавым Грудзе.*
*Фота Цаф — Р. Сянько*



---

лася па-ранейшаму. У сутычках гінулі салдаты і жандары, а парашутысты заставаліся няўлоўнымі.

На трэці дзень пасля высадкі нашай разведгрупы Эрых Кох запрасіў шэфа паліцыі Лемке да сябе ў рэзідэнцыю. Звычайна Кох пагарджаў такой кампаніяй і перад усімі выстаўляў гэту сваю пагарду. Іменна тады яны і дамовіліся аб правядзенні правакацыйнай аперацыі «А», што азначае «Ангст»-страх.

Аперацыя «А» павінна была запалохаць насельніцтва, мабілізаваць яго на барацьбу з рускімі. Няцяжка было здагадацца, што парашутысты вымушаны будуць наведваць хутары, каб папаўняць запасы харчоў. Вось там ім і павінна быць падрыхтавана пастка.

Сустрэча гаўляйтара і шэфа паліцыі адбылася 30 ліпеня, а наступнай ноччу аперацыя «А» была здзейснена. Гаўляйтар пастараўся, каб на месца гэтай правакацыі прыехала як мага больш карэспандэнтаў і фотарэпарцёраў. Вось яны і распісалі »зверствы рускіх парашутыстаў на хутары Кляйнберг«.

Мы разумелі, што пасля гэтага нам будзе вельмі небяспечна наведвацца на хутары. З наступленнем ночы прусакі будуць замыкацца і сядзець у сваіх дамах, як у крэпасцях, дрыжучы ад кожнага шолаху, перад страхам смерці гатовыя да адчайнага супраціўлення. Але ж газета, якая трапіла ў нашы рукі, і для нас была папярэджаннем, перасцярогай.

Каб заблытаць сляды, перахітрыць ворага, мы пасля чарговага радыёсеанса не выходзілі на сувязь з Масквой па двое трое сутак. Стараліся за гэты час адысціся як мага далей, разведаць новыя раёны, прасачыць за рухам войск на аўтатрасах, на чыгунках, не выдаючы сябе.

Сабраўшы каштоўныя разведвальныя звесткі, мы перадавалі іх у «Цэнтр»: мы маглі выходзіць на сувязь у любы час дня і ночы, бо Масква чакала нашых пазыўных, устанавіўшы бесперапыннае дзяжурства ля рацый.

Мы стараліся эканоміць харч: ведалі, што на кожным хутары можам трапіць у пастку.

Так прайшло дзён дзесяць пасля высадкі. Аблавы на нас не перапыняліся ні на хвіліну. Страціўшы надзею на тое, што мы патрапім у расстаўленыя пасткі, Эрых Кох дабіўся згоды Рэйнгарда выдзяляць штодня да двух палкоў пяхоты для прачэсвання лесу. Небяспека хадзіла за намі па пятах, але нам усё яшчэ шанцавала.

Вечарам 6 жніўня «Цэнтр» даў нашай групе загад перайсці ў раён горада Гольдапа. Гэта кіламетраў 80 на паўднёвы ўсход ад таго месца, дзе мы знаходзіліся. Вядома, што наш шлях быў намнога даўжэйшы, чым значылася на карце, бо нельга было ісці па прамой, трэба было пятляць, заблытваць сляды, хавацца ад чужога вока на чужой, варожай зямлі.

(Працяг будзе)

---

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**
„Obok prawdy" (polski), 2—3. „Walizka z milionami" (francuski), 4—5. „Zbrodniarz, który ukradł zbrodnię" (polski), 6—7.

**Дубіны**
„Cena strachu" (franc.), „Gorzkie życie" (włoski), 6—7.

**Нараўка**
„Maskarada szpiegów" (angl.), „Manewry Dniepr" (radz.), 3—7.

**Нарва**
„Umarli milczą" (NRD), I i II s. 3—7.

**Чыжы**
„Start" (belg.), „Wiryneja" (radz.), 3—7.

**Дубічы Царкоўныя**
„Testament gangstera" (francuski), „Tak się zaczęło" (NRD), 3—7.

**Арэшкава**
„Cierpkie wino" (radz.), „Susza" (brazylijski), 6—7.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Dr Crippen przed sądem" (angl.), „Czarny mustang" (USA), 3—7.

**Орля**
„On nie chciał umierać" (radziecki), „Zakochana wiedźma" (włoski), 3—7.

**Райск**
„Spotkałem nawet szczęśliwych cyganów" (jugosł.), 3—7.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Francja naprzód" (franc.), „Zbrodniarz. który ukradł zbrodnię" (polski), 2—5.

**Міхалова**
„Trzy godziny miłości" (jugosłowiański), 2—3. „Stawka większa niż życie" (polski), 4—7.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Stawka większa niż życie" (polski), 3—7.

**Янаў**
„Trzy dni Wiktora Czernyszewa" (radz.), 3—7.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**
„Tygrys lubi świeże mięso" (franc.), 2—3. „Jej siedem wieczorów" (czeski), 4—5. „Czerwone i złote" (polski), 6—7.

**Мельнік**
„Nieprzyjaciel u progu" (radziecki), 2—3. „Jo-jo" (franc.), 4—5. „Dzika Elżbieta" (czeski) 6—7.

**Мілейчыцы**
„Dziewczyna na rozdrożu" (bułg.), 2—3. „Miłość i jazz" (franc.), 4—5. „Brat dr Homera" (jugosł.), 6—7.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**
„Ballada huzarska" (radz.), „Grawitacja" (jugosł.), 3—7.

**Новы Двор**
„Światło na twarzy" (węgierski), „Słońce obcego nieba" (jugosł.), 6—7.

**Ніва**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

B.Z.Graf. H-1 NAKŁAD 6620

# Не там спяваў...

Сустрэліся мы пяць год назад. Аднойчы, у канцы верасня, мы пайшлі за горад. Неба было ружовае, дзіўнае якоесьці, і здавалася, яно было толькі нашае... Такі быў дзень... Лета памірала ў нас на вачах, і мы яго не шкадавалі. Наталія раптам засмяялася, потым выцягнула са стога травінку, прыкусіла яе зубамі і нейк дзіўна і цёпла паглядзела на мяне. На плячах у яе была шаўковая сіняя хустачка. Калі я хацеў яе пацалаваць, яна спрытна ўхілілася, і ў мяне ў руках засталася гэта хустачка. Я дагнаў яе, накінуў хустку ёй на плечы, а яна пакорна глянула на мяне сваімі вялізнымі вачыма. Такіх вялізных вачэй я ніколі не бачыў... Глянула і ўсміхнулася.

Ажаніўся я з ёю ў пачатку лістапада.

З выгляду я не асаблівы. Сярэдняга росту, схільны да паўнаты, ногі ў мяне кароткія. Таму я не люблю хадзіць на пляж. Мяркуючы па рэакцыі, якую выклікала аднойчы маё з'яўленне на пляжы ў дзяйчын, якія там ляжалі, відаць, я быў вельмі смешны.

Але затое ў мяне прыемны голас. Асабліва добра выходзяць у мяне рускія рамансы. З гэтага — та ўсё і пачалося. Начальства даведалася аб маіх талентах. Пачалі запрашаць на паляванне. І я ездзіў. Пратрубіць машына яшчэ да світання пад акном, я ўстаю, адзяваюся пацішлей, пацалую Наталію, хоць яна, бывала, і хмурыцца, і еду. Ружжа я не браў. Я наогул не страляю. Мне проста падабалася, як я еду на паляванне ў машыне самога таварыша начальніка. Калі канчалася паляванне, усе збіраліся ў паляўнічым доміку, і пачыналася вяселле. Тут я быў у цэнтры ўвагі: я спяваў! Песні мае ўсім падабаліся, даходзіла да таго, што начальнікі сварыліся, спрачаліся, каму ў сваёй машыне везці мяне дамоў! І я прыязджаў позна ноччу і прывозіў падарункі: качак, зайцаў — усё, чым кіраўніцтва старалася адудзячыць мяне за прыгожыя песні.

З часам начальства мяне так палюбіла, што мне было дазволена не з'яўляцца на працу, калі я праспліо пасля паляўнічай ночы ў лесе.

Аднойчы паехалі мы на паляванне, але ў дарозе сапсавалася машына. Давялося нечакана вярнуцца дамоў. Прыходжу, а ў Наталіі мужчына. Прыгожы, разгорнуты малады чалавек. Нічога страшнага я не ўбачыў. Яны проста сядзелі, пілі каву і трымаліся за рукі. Але я ўстрывожыўся. Я не люблю хлусні, падману. Гэта ўніжае чалавека.

Хлопец трымаўся ганарыста. Ён сказаў мне, што кахае Наталію і што яна кахае яго. Ён сказаў, што яму вельмі сорамна, што яны не расказалі мне ўсяго раней, у першы дзень, але менавіта цяпер яны дамовіліся, што раскажуць мне ўсё, як толькі я вярнуся...

Я спытаў Наталію, ці праўда ўсё гэта. Яна замест адказа абняла яго.

— Ну што ж, добра! — сказаў я. — Я адыду.

І я адышоў.

Цяпер я жыву ў маці і думаю, як гэта ўсё магло здарыцца. Відаць, не там я спяваў рамансы, дзе трэба...

БРАНА ЦРНЦЭВІЧ



Без слоў.







## Талаваломка



У 36 клетках квадрата мы бачым знакі шасці розных відаў. Ці зможаце вы ўлажыць гэтыя знакі такім чынам, каб яны не паўтараліся ні ў адным радзе па гарызанталі і вертыкалі (знакі можна замяніць цыфрамі)?

*

**Адказ на заданне з папярэдняга нумара:**



### САМАЕ ГАЛОЎНАЕ

Маладажоны адправіліся на адпачынак у горы. Убачыўшы ў небе арлоў, муж, звяртаючыся да жонкі, усклікнуў:

— Дарагая, глядзі, якія арлы! Яны жывуць звыш трохсот год...

— Цікава, а колькі разоў яны разводзяцца?..

### ПРАМОЎЦУ

Паслухайся маёй парады —
Не імітуй вадаправод.
Чым ліць заўжды ваду
ў дакладах,
Лепш набяры вады ў рот.

**Тадэвуш Паляноўскі**

### НЕ ДЛЯ РАЗМОВЫ

Пакупнік пытаецца ў прадаўца:
— Можна ў вас купіць бляшанку сардзін?
— Калі ласка, вам якіх: іспанскіх, партугальскіх, французскіх?
— Ды мне абы-якіх. Я не збіраюся з імі размаўляць.

### РАЗМОВА ДЗВЮХ ЖАНЧЫН

— Мой муж ездзіць на матацыкле, як маланка!
— Так хутка?
— Не. Так зігзагападобна.

### ВЯРБЛЮД - КРЫТЫК

Сабе тым славу
заваёўваў,
Што без разбору ўсіх
аплёўваў.

**Пятро Сушко**

### УСТАВАЙ — УЖО СЕМ!

Муж і жонка пасля спрэчкі не размаўляюць паміж сабою — ніхто не хоча загаварыць першы. Таму аднойчы, калі мужу трэба было паспець на поезд, ён паклаў на стол запіску: «Разбудзі мяне ў сем гадзін раніцы».

Калі муж прачнуўся, была дзевятая гадзіна, а на стале ляжала паперка: «Уставай — ужо сем!».

### НАПАЛОХАЎСЯ

Бяжыць Заяц па лесе, аж дым з-пад пят курыць.
— Куды спяшаешся, Касы? — супыняе яго Воўк.
— Што?.. А ты хіба нічога не чуў?! Уцякайма хутчэй: хтосьці Слана да паўсмерці збіў — кожнага падазронага затрымліваюць...

**А. Мурашка**

### НА ПАЛЯВАННІ

Двое паляўнічых сустрэліся ў лесе.
— Даўно вы палюеце на сланоў? — пытае адзін аднаго.
— Нядаўна. Наогул дык я прыйшоў лавіць матылькоў, але разбіў у лесе акуляры.









### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Ніны Вашчук, Крысі Федарук, Ніны Іванюк, Мікалая Тамашука і Анатоля Яканюка з вёскі Янава, Гайнаўскага павета, і Веслава Дзянісюка з Гарадка, Беласточкага павета, змяшчаем песню п. з.

## Mój płacz ukoi wiatr

**Nie umiałam chodzić lasem,
Nauczyłeś mnie.
Pokazałeś mi, jak kwitną łąki,
Teraz mówisz, przyszedł czas
By nauczyć jeszcze mnie,
By nauczyć jeszcze mnie rozłąki.**

**REFREN:**

**Idź, proszę idź
I nie wracaj tutaj nigdy więcej.
Mój płacz ukoi wiatr,
A może czyjeś, czyjeś już, nie twoje ręce.**

**Nie umiałam cię całować,
Nauczyłeś mnie,
Zamieniłeś słońce w kolczak złoty,
Teraz mówisz, przyszedł czas
By nauczyć jeszcze mnie,
By nauczyć jeszcze mnie tęsknoty.**

**REF. Idź, proszę... itd.**

**Nie wiedziałam co to miłość,
Nauczyłeś mnie.
I już wiem, jak się ze szczęścia płacze,
A ty mówisz, przyszedł czas
By nauczyć jeszcze mnie,
By nauczyć jeszcze mnie rozpaczy.**

**REF. Idź, proszę... itd.**



**— Зноў ты вёў палітычную дыскусію з цырульнікам?**

### ПАЧАКАЕ

Маладая амерыканка пытае прыяцельку:
— Я чула, што да цябе заляцаецца вельмі начытаны хлопец.
— Так. Два дні назад ён прынёс мне прачытаць «Тэорыю адноснасці» Эйнштэйна.
— І ты прачытала?
— Не. Пачакаю, пакуль з яе зробяць фільм.

### ЦІКАВА

— Цікава, што гаворыць бусліха свайму дзіцяці, калі тое пытае, адкуль бяруцца маленькія буслы?




### НАГАВІЦЫ ПРЭМ'ЕРУ

Нарвежскі прэм'ер Пэр Бартэн (56) даў афіцыйнае інтэрв'ю рэпарцёру «Дагбладэт», прымаючы яго ў кароткіх купальных трусах. Такі ж і здымак змясціла гэта найбольшая ў Нарвегіі газета.

Свабодны ўбор вялікай асабістасці ў часе амаль дзяржаўнай дзейнасці выклікаў розныя рэакцыі. Між іншым, нарвежскае аб'яднанне жанчын абвясціла грашовы збор на новыя даўжэйшыя і лепшыя трусы для прэм'ера.



### НЕЗВЫЧАЙНЫЯ СТЭНОГРАФЫ

Члены адной індыйскай сям'і, Велала, — самыя незвычайныя стэнографы: яны запісваюць дыктуемае не седзячы і не стоячы, а на бягу. Працуюць яны звычайна ў занятых людзей, якім лягчэй дыктаваць, рухаючыся на павозцы або якім-небудзь іншым спосабам. Стэнограф бяжыць побач і запісвае ўказанні пяром на пальмавым лісту, а ў час прыпынку расшыфроўвае запісанае. Бадай, гэта адзіныя стэнографы, якім плацяць, зыходзячы з пройдзенага шляху.




**Хоць асёл і ўмее перакаанаўча ківаць галавой, не ўсе яго прапановы прымаюцца.**